11 траўня 1999 г. аўторак

# НАВІНЫ

№50 (581) кошт свабодны



стар.4

# Знік Юрый Захаранка

## Пятыя суткі родныя і аператыўнікі не могуць знайсці экс-міністра ўнутраных справаў

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

**З заявай аб знікненні былога міністра ўнутраных справаў Юрыя Захаранкі ягоная жонка Вольга Барысаўна звярнулася ў міліцыю ў суботу, 8 траўня. Паводле яе словаў, муж знік недзе каля дзесяці гадзінаў вечара ў пятніцу. Яна патэлефанавала яму на сотавы тэлефон, і Захаранка адказаў, што толькі што паставіў машыну на стаянку і ідзе дадому. «Праз 10 хвілінаў буду,» — супакоіў жонку Юрый Мікалаевіч. Машыну ён ставіў побач з пажарнай часткай на вуліцы Красівай, а жывуць Захаранкі на Жукоўскага. Пешшу гэта ўсяго 10—15 хвілінаў. На гэтым маршруце недзе і знік Юрый Захаранка. Што з ім зараз, невядома.**



Афіцыйныя крыніцы пра лёс былога міністра маўчаць. Пра затрыманне Захаранкі не заявілі ні пракуратура, ні КДБ, ні міліцыя. У прэс-цэнтры МУС толькі пацвярджаюць, што ў Кастрычніцкі раённы аддзел міліцыі паступіла заява пра знікненне Юрыя Захаранкі. Супрацоўнікі ДАІ Мінска, якія нясуць дзяжурства на дарогах у гэтыя дні, нават не ведалі, што іх былы міністр знік і «зараз расшукваецца». Інфармацыя пра росшук Захаранкі дагэтуль не патрапіла і да дзяжурных міліцыянераў на вакзалах. Вольга Захаранка кажа, што мужа не прывозілі ў КДБ ці ў Савет бяспекі. Сцвярджаючы так, жонка Захаранкі спасылаецца на ўплывовых знаёмых, якія па сваіх каналах выходзілі на Мацкевіча і Шэймана. Вольга Барысаўна ў адчаі: «З ім могуць зрабіць што заўгодна, а потым спісаць усё на здарэнне на бытавой глебе». Жонка былога міністра згадвае, што ў апошні час Юрый Мікалаевіч атрымліваў і пагрозы, і папярэджанні. Знаёмыя і проста добразычліўцы з міліцыі і органаў паведамлялі, што ёсць загад на любой падставе ўзбудзіць супраць яго крымінальную справу і як мага хутчэй ізаляваць. Аднак Юрый Мікалаевіч рэагаваў на такія звесткі спакойна: «Я маю права ў сваёй Беларусі хадзіць з высока паднятай галавой», — казаў былы міністр.

На думку Вольгі Барысаўны, хутчэй за ўсё яе мужу помсцяць за апазіцыйнасць і дапамогу кандыдату ў прэзідэнты Міхаілу Чыгіру. Узгадвае жонка Захаранкі і дзейнасць мужа па стварэнні Саюза афіцэраў. «Па гэтым пытанні нам шмат людзей тэлефанавала, і было бачна, як гэта непакоіць улады. Нас увесь час падслухоўвалі, дасылалі пагрозы. Тры дні, як знік Юрый Мікалаевіч, а побач з нашым домам дагэтуль стаіць вайсковая машына. Кантралююць», — паведамляе Вольга Захаранка.

Версію пра тое, што Захаранку адвязуць у Гомель, дзе супраць яго ўзбуджаная крымінальная справа, Вольга Барысаўна не прымае. Яна тлумачыць: «Мы звязваліся з Гомелем, там Юры няма, а ягоная адвакатка ўвогуле паведаміла, што і справа супраць яго ўжо закрытая». Вольга Захаранка паведаміла, што росшукам мужа займаецца пошукавая служба гарадской міліцыі. Сп. Федарэнка, кіраўнік гэтай службы, не адмовіўся пагутарыць з карэспандэнтам НАВІНАЎ на тэму знікнення экс-міністра, аднак папрасіў адкласці сустрэчу, спаслаўшыся на занятасць.

Нагадаем, што Юрый Захаранка быў прызначаны міністрам унутраных справаў у 1994 годзе, але праз паўтара года зняты. Былога міністра спрабавалі абвінаваціць у службовых злоўжываннях, але ёсць меркаванне, што сапраўднай прычынай адстаўкі стала адмова Захаранкі выконваць тую ролю ў барацьбе з апазіцыяй, якую потым выконваў Агалец, а зараз Сівакоў. Неўзабаве пасля адстаўкі Юрый Захаранка пачынае ўсё больш актыўна супрацьстаяць рэжыму прэзідэнта Лукашэнкі. Зараз ён у жорсткай апазіцыі да гэтай улады. Юрый Захаранка ўваходзіць у склад Нацыянальнага камітэта (ценявы ўрад), які быў створаны пры Вярхоўным Савеце 13-га склікання пасля рэферэндуму 1996 года і актыўна дзейнічаў пад кіраўніцтвам Генадзя Карпенкі.

Дарэчы,назіральнікі звяртаюць увагу на такую акалічнасць. Літаральна на працягу аднаго апошняга месяца памёр Генадзь Карпенка, «збегла» Тамара Віннікава, арыштаваны Міхаіл Чыгір, знік Юрый Захаранка. Няўжо гэта выпадковы збег абставінаў? ■

## «Рэзанансам» салдат муштравалі

Па трывозе позна вечарам 9 траўня давялося выклікаць сілавое падмацаванне з салдат тэрміновай службы ў Брэсцкай крэпасці. Тут адной тысячы супрацоўнікаў міліцыі ўжо не ўдавалася стрымаць натоўп «заведзеных» гледачоў канцэрта, прымеркаванага да Дня Перамогі. І хоць на гэты раз абышлося, на шчасце, без крыві, але, відавочна, фэст у крэпасці калі-небудзь усё ж сапсуе Брэсту рэпутацыю гасціннага горада.

*Надзея СВЯТЛІЧНАЯ*

## Два выбухі напярэдадні Дня перамогі

У суботу на дачным участку ў Аршанскім раёне 16 - гадовы навучэнец прафесійна - тэхнічнага вучылішча паспрабаваў разабраць міну, у выніку адбыўся выбух. Пацярпелага юнака даставілі ў аршанскую бальніцу, дзе яму ампутавалі рукі і ногі, цяпер ён знаходзіцца ў рэанімацыі. Выкліканыя на месца здарэння сапёры знайшлі на ўчастку яшчэ і гранату. У той жа дзень на Івацэвіцкім дрэваапрацоўчым камбінаце выбухнуў драўнінны пыл у вентыляцыйнай шахце. Пацярпелі тры чалавекі, двое з іх цяпер знаходзяцца ў бальніцы з апёкамі першай і другой ступені.

*Мікола ВАЙТОВІЧ*

## Жанчын рассудзіць мужчына

З 16 па 20 траўня ў Мінску пройдзе V Міжнародны фестываль жаночага кіно. Яго заснавальнікамі выступілі кінастудыя «Тацццяна» і Беларускі саюз кінематаграфістаў. Сёлета журы фестывалю ўзначаліць прэзідэнт гільдыі кінарэжысёраў Расіі Марлен Хуцыеў. Гасцямі фестывалю будуць вядомыя дзеячы культуры і акцёры. Сярод іх — Валерый Рубінчык, Валянцін Гафт, Вольга Астраумава, Тацццяна Акунеўская, Дзіна Корзун, Вера Глаголева.

*Аддзел інфармацыі*

ВАЙНА

# Кітайская хваля

## Ці ёсць верагоднасць Трэцяй сусветнай вайны?

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Выпадкова ці наўмысна, але ў Балканскі канфлікт аказалася ўцягнутая буйнейшая азіяцкая краіна – Кітай. У ноч на суботу на будынак кітайскай амбасады ў Бялградзе ўпала амерыканская ракета.**



У выніку было забіта не менш за тры чалавекі – журналістка дзяржаўнага агенцтва Сіньхуа і яшчэ адзін журналіст з жонкай, больш за дваццаць чалавек было паранена. У адказ у Кітаі распачалася і ідзе моцная хваля антыамерыканскіх пратэстаў.

Як паказала расследаванне, бамбардзіроўшчык B-2 выляцеў непасрэдна з амерыканскай ваеннай базы і скінуў бомбу на кітайскую амбасаду. Бамбаванне вялося з вышыні больш за 5 кілометраў. Афіцыйныя прадстаўнікі NATO вінавацяць ва ўсім недакладныя дзеянні выведкі – маўляў, па іхніх дадзеных на гэтым месцы мусіў быць склад зброі югаслаўскай арміі. А ўчора амерыканская газета Washington Post паведаміла са спасылкай на ананімныя крыніцы ў кіраўніцтве NATO, што проста пры планаванні базавых удараў была выкарыстаная старая мапа тых часоў, калі кітайская амбасада была яшчэ не пабудаваная.

Чацвёрты дзень доўжацца шматтысячныя дэманстрацыі пратэсту ў Кітаі – дэманстранты паляць амерыканскія сцягі, газеты і партрэты Біла Клінтана. Здаецца, што ўсё хваляванні добра арганізаваныя і адрэжысіраваныя. У суботу ў Пекіне дзесяткі тысячаў дэманстрантаў акружылі амерыканскую амбасаду і закідалі яе камянямі і бутэлькамі з запальнай сумессю. Універсітэты аўтобусамі прывозілі тысячы сваіх студэнтаў да месцаў правядзення акцыяў. Да студэнтаў далучаліся жыхары суседніх кварталаў, некаторыя прыводзілі з сабой дзяцей. Сведкі сцвярджаюць, што не бачылі такой колькасці людзей на вуліцах з часоў «студэнцкай рэвалюцыі» ў чэрвені 1989 года, калі шматтысячны студэнцкі натоўп быў расстраляны войскамі на пекінскай плошчы Цяньаньмынь.

Дэманстрантаў стрымліваюць некалькі соцень паліцыянтаў у спецабмундзіраванні, якія сабой, як жывым шчытом, прыкрываюць амбасаду і адцягваюць найбольш спрытных дэманстрантаў ад акружанага будынка. Адзін з транспарантаў на вуліцах Пекіна звяртаецца да амерыканскага прэзідэнта: «1 мільярд 200 мільёнаў чалавек супраць цябе, Біл. Мы гатовыя ў любы момант апрануць салдацкую форму і пайсці на Вашынгтон». ■

*Працяг матэрыялу на стар. 3*

## НАДВОР'Е




12 траўня па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў. Вецер паўночна-ўсходні, 4-9 м/с. Тэмпература паветра ўначы ад 0 да 3 градусаў ніжэй нуля, па поўдні месцамі +1-+6, днём — +7-+12, па Брэсцкай вобласці +9-+14.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**420 000**

АЎТОРАК З КАСТУСЁМ ТАРАСАВЫМ

## Простая лінія

На мінулым тыдні дзяржаўнае радыё, тэлебачанне і міністэрства сувязі адзначалі сваё свята. Дзякуючы тэлефону простай лініі, па якім на радыё званілі слухачы, можна было даведацца шмат цікавага. Прыкладам, пра заклапочанасць радыёслухачоў старэйшага пакалення дрэнным выхаваннем моладзі. Людзі скардзіліся, што зараз моладзь арыентуецца на асабістае шчасце, а высокія патрыятычныя пачуцці хваляюць яе ў апошнюю чаргу. Бо, на іх думку, страцілася выдатная савецкая традыцыя выхавання на лепшых прыкладах. Ёсць шмат незвычайных людзей, якія ў цяжкіх умовах рынку самааддана працуюць на заводах і фермах. Ды хто пра іх ведае? Хто здымае пра іх фільмы? Слухачы задаваліся пытаннем, дзе знакаміты Міхаіл Пташук з яго кінаталентам? Куды падзеліся іншыя майстры кіно? Чаму беларускія пісьменнікі сваім прыгожым словам не расскажуць пра герояў сённяшняга дня, не павернуць юныя сэрцы да дастойных ідэалаў? Моладзь, засмучаліся старыя людзі, харчуецца духоўнымі памыямі: слухае песні на англійскай мове, глядзіць брудныя замежныя фільмы пра забойствы й сэкс, думае пра долары і вялікія заробкі. Старыя жаліліся, што аддалі дзяржаве сваю маладосць, сілы, цярпенне, а зараз не маюць змены, якая здольная працягваць іхні лад жыцця. Дзе патрыятычны саюз моладзі, пра які апякаецца прэзідэнт Лукашэнка? Чаму, дзівавалі старыя, не адчуваецца ўплыў гэтай маладзёвай арганізацыі? (Можа, патрыятычны саюз таксама слухае англійскія песні і думае пра вялікія заробкі?)

Адзначылі слухачы і недапушчальныя грахі першага канала беларускага радыё. Некаторыя журналісты дазваляюць сабе на дзяржаўным канале звяртацца да суразмоўцы словамі «спадар», «спадарыня» (трэба, відаць, — «господин», «госпожа» ці, як у турме, «гражданин», «гражданка»). На думку некаторых рускамоўных слухачоў, «нормы белорусского языка устанавливаются палатами национального собрания. Белорусский язык принимается законом. Слово «спадар» неприемлемо для нашего народа». Прагучала нават патрабаванне прыняць закон пра забарону «размаўляць на тарашкевіцы» (праўда, без тлумачэння, як гэта здзейсніць, паколькі вусная тарашкевіца інакш называецца беларускай мовай). Радыёчыноўнік, які прымаў віншаванні са святам і адказваў на пытанні, патлумачыў, што ён асабіста забараніў на першым канале карыстацца словамі «спадар», «спадарыня» і гаварыць на тарашкевіцы. Так што слухачам моўныя абразы не пагражаюць. Дзяржаўнае радыё будзе інфармаваць народ пра дзяржаўную палітыку ўрада на «нармальнай мове», на англійскія песні, любімыя моладдзю, выдзяляецца паўгадзіны, а найбольш будуць гучаць «отечественные»(?) і беларускамоўныя.

Вось такая простая лінія.

ПРЭЗІДЭНЦКІЯ ВЫБАРЫ-99

# Мільён за тры дні

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

**Цэнтрвыбаркам паведаміў што па стане на 10 траўня ў выбарах ужо прынялі ўдзел больш за 1 мільён 193 тысяч чалавек. Нагадаем, што ўсяго ў Беларусі налічваецца больш за 7,5 мільёнаў выбаршчыкаў.**

Найбольш актыўна галасуе народ на Віцебшчыне. Там свае галасы за Міхаіла Чыгіра і Зянона Пазьняка ўжо аддалі амаль 22 працэнты грамадзянаў. На другім месцы Гродзенская вобласць, дзе прагаласавала 16,7 працэнта выбаршчыкаў. Далей у гэтым спісе з невялікім адрывам ідуць Гомельшчына, Мінская вобласць і Мінск, а таксама Магілёўшчына. Аўтсайдэрам выбарчай гонкі пакуль з'яўляецца Брэсцкая вобласць, дзе ўдзел у галасаванні ўзяло крыху больш за 10 працэнтаў выбаршчыкаў.

Тым часам улады даволі рэзка рэагуюць на дзейнасць членаў рэгіянальных выбарчых камісіяў і актывістаў, што ходзяць па кватэрах са скрынямі для галасавання. 7 траўня на выездзе з Мінска нарад ДАІ затрымаў машыну намесніка старшыні Гомельскай абласной камісіі Віктара Яфімава, у якога канфіскавалі 25 тысяч выбарчых бюлетэняў. А ў Магілёве міліцыя арганізавала вобыск у штаб-кватэры абласной камісіі і канфіскавала вялікую колькасць выбарчай дакументацыі. Ёсць таксама звесткі, што актывістаў выбарчай кампаніі затрымлівалі ў Мінску, Магілёве, Крычаве і іншых гарадах краіны. Міліцыі дадзена ўказанне складаць на членаў камісіяў пратаколы аб правапарушэннях і канфіскоўваць усе перадвыбарчыя матэрыялы. ■

ФОТАФАКТ



# Ярмошына выклікалі ў суд

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Група грамадзянаў, у лік якіх уваходзяць вядомы юрыст Гары Паганяйла і экс-дэпутат Вярхоўнага Савета Валеры Костка, падала ў суд Маскоўскага раёна горада Мінска скаргу на мэра горада Уладзіміра Ярмошына. У лютым гэтага года спадар Ярмошын сваім рашэннем забараніў калоне антыфашысцкіх дэманстрантаў праход па праезнай частцы горада, чым, на думку істцоў, груба парушыў правы грамадзянаў. Сёння павінна адбыцца першае пасяджэнне па гэтай справе. У якасці адказчыка выкліканы сам мэр Уладзімір Ярмошын. ■

● На фота: старшыня Мінгарвыканкама **Уладзімір Ярмошын** на святкаванні Дня перамогі

# Прыватнае жыцце з дазволу дэканата?

Уладзімір ЛЯВОНАЎ

**Працягваецца адлічэнне студэнтаў з вышэйшых навучальных установаў па палітычных матывах. Днямі адзначыўся на ніве ціску на іншадумцаў Беларускі дзяржаўны эканамічны універсітэт.**

*«Уважаемые родители! Деканат факультета МЭО Белорусского государственного экономического университета сообщает Вам, что Ваша дочь М. 18.04.99 г. за активное участие в жизни оппозиционных течений и за систематические пропуски занятий отчислена из Университета.»*

Паперу такога зместу за подпісам намесніка дэкана Зяньковa В.С. атрымалі бацькі дзяўчыны, якая мела дачыненне да маладзёжных арганізацыяў, афіцыйна зарэгістраваных АГП і БНФ. Са згаданай паперы не зусім зразумела, ці разглядаецца ў БДЭУ удзел у жыцці апазіцыйных плыняў як паўнаважкая прычына адлічэння студэнта ці гэта толькі абцяжваючая абставіна. Але ў любым выпадку цяпер сямнаццацігадоваму студэнту БДЭУ трэба праяўляць максімум увагі, каб аб яго актыўнай грамадзянскай пазіцыі не даведаліся функцыянеры ад адукацыі. Калі дэканаты і далей будуць так пільна высочваць сваіх навучэнцаў, то наступным крокам можа быць усталяванне жорсткіх лімітаў на прыватнае жыццё студэнтаў, напрыклад, вечарына толькі па талонах і з дазволу намесніка дэкана. ■

# Польская меншасць незадаволеная «дзяржаўнай апекай»

Язэп СІНІЦКІ

**Прадстаўнікі Саюза палякаў на Беларусі збіраюцца выйсці са складу каардынацыйнай грамадскай рады нацыянальных меншасцяў, якая дзейнічае пры Дзяржкамітэце па справах рэлігіяў і нацыянальнасцяў, а таксама адмовіцца ад дзяржаўнага фінансавання друкаванага органа Саюза — газеты Glos znad Niemna. Аб гэтым рашэнні паведаміў учора старшыня Саюза палякаў Тадэвуш Гавін.**

Прычынай, якая падштурхнула беларускіх палякаў да такога кроку, сталі дзеянні гродзенскіх уладаў, якія, на думку актывістаў Саюза, ігнаруюць іхнія правы. Некалькі гадоў запар дзяржаўныя чыноўнікі не даюць палякам дазволу на будаўніцтва польскамоўных школаў і не дазваляюць актывістам Саюза легальна адстойваць свае правы.

За арганізацыю ў Гродне несанкцыянаванага пікета суд няўдаўна аштрафаваў шэфа Саюза палякаў Гавіна на 115 мільёнаў рублёў. У такіх умовах прадстаўнікі Саюза не бачаць сэнсу заставацца ў складзе каардынацыйнай рады, бо ўлады выкарыстоўваюць знаходжанне палякаў у радзе ў якасці аргумента, што ў Беларусі не парушаюцца правы нацменшасцяў. Саюз палякаў таксама не збіраецца больш браць дзяржаўныя грошы на выданне сваёй газеты. На думку прадстаўнікоў Саюза, улады проста хочуць пазбавіць рэдакцыю незалежнасці і ператварыць Glos znad Niemna ў фактычна дзяржаўнае выданне. ■

ЦЫТАТА НУМАРА

***В нынешнем аппарате власти половина людей либо не дотягивает до уровня занимаемых ими должностей, либо вообще не компетентны. А заменить некем. Вот проблема для власти!***

*Михаил САЗОНОВ, помощник президента*

*«Белорусская газета», 3 мая 1999 года*

# СПБ пачаў збор подпісаў

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Кіраўніцтва Свабоднага прафсаюза Беларускага выступіла з шырокамаштабнай ініцыятывай. Сутнасць яе ў тым, што грамадзянам Беларусі прапануецца паставіць свой подпіс у падтрымку трох прапановаў прафсаюза, якія, разам з сабранымі подпісамі, будуць перададзеныя ў Палату прадстаўнікоў для разгляду і абмеркавання. Для кожнай з прапановаў маецца асобны ад аркушу, якіх надрукавана ўжо дастаткова вялікая колькасць.

Першая з прапановаў тычыцца мінімальнага заробку, які прапануецца зраўняць з мінімальным спажывецкім кошыкам (зараз ён складае 11 млн. 370 тыс. рублеў). Пры гэтым сам заробак павінен, як мінімум, удвая перакрываць мінімальную заробатную плату. На ўзроўні спажывецкага кошыка прапануецца ўсталяваць і мінімальны памер пенсіі. ■

# Мінск наведаў прэзідэнт Татарстана Мінцімер Шайміеў

БелаПАН

Мінск з рабочым візітам наведаў 8 траўня прэзідэнт Рэспублікі Татарстан Мінцімер Шайміеў. У аэрапорце «Мінск» яго сустракаў міністр замежных справаў — віцэ-прэм'ер беларускага ўрада Урал Латыпаў. Ён і правеў перамовы з М.Шайміевым. Як вядома, Аляксандр Лукашэнка гэтым часам яшчэ знаходзіўся з візітам у Валгаградскай вобласці.

Аб мэтах і падрабязнасцях візіту кіраўніка аднаго з буйнейшых суб'ектаў Расійскай Федэрацыі нічога не паведамляецца. У гэты ж дзень прэзідэнт Татарстана пакінуў беларускую сталіцу. ■

# Ідэя перайменавання праспекта Скарыны не падабаецца беларусам

Аддзел інфармацыі

Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны заклікае свядомых грамадзянаў Беларусі выступіць у абарону назвы галоўнай сталічнай вуліцы — праспекта Францыска Скарыны.

Як адзначаецца ў адпаведнай заяве кіраўніцтва ТБМ, прэзідэнт Беларусі днямі ў сваім чарговым выступленні выказаў прапанову перайменаваць галоўны праспект сталіцы, «тым самым робячы спробу прыцьміць светлую памяць беларускага асветнікаперадрукара». Аўтары заявы нагадваюць, што галоўная вуліца Мінска атрымала сваю назву ў гонар 500-гадовага юбілею Ф.Скарыны, які ўрачыста адзначаўся ў 1990 годзе. «Мы лічым, — гаворыцца ў заяве, — што ўсялякія спробы скасаваць з геаграфічнай карты сталіцы імя стваральніка першай беларускай Бібліі з'яўляюцца чарговым наступам на асяродкі беларускасці». ■

# Расійскі медаль «за Беларусь» атрымаў немец

Алесь ДАШЧЫНСКІ

9 траўня доктар Ёханэс Шлотц з Берлінскага свабоднага універсітэта атрымаў расійскую ўзнагароду, медаль «У памяць 850-годдзя Масквы». Яна была ўручаная ў расійскай амбасадзе ў Германіі на імпрэзе з нагоды свята Перамогі. Гэтай узнагароды спадар Шлотц удастоены за выставу «Нямецкая прапаганда ў Беларусі. 1941 — 1944 гады», якая два гады таму экспанавалася ў Мінску, а таксама ў Берліне і Маскве. Выстава выклікала вялікі рэзананс, хоць беларуская ўлады аднесліся да яе насцярожана. Выставу не ўдалося паказаць у іншых гарадах нашай краіны. Затое расійскія ўлады высока ацанілі працу нямецкага даследчыка з Берліна. ■

СПОРТ

# На чэмпіянаце ў беларусаў — «пралёт»

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Страшна не пашанцавала зборнай Беларусі па хакеі на чэмпіянаце свету, які зараз праходзіць у Нарвегіі. Усяго адна шайба, якую б закінулі фінскія хакеісты ў вароты зборнай Расіі, магла дазволіць нашай камандзе ўвайсці ў васьмёрку мацнейшых і пазмагацца за медалі. Але гэты матч так і скончыўся з лікам 3:3.

І хаця нашыя выканалі сваю задачу-мінімум — засталіся ў эліце сусветнага хакея і на наступны год, усё ж, калі маеш нешта, жадаеш большага. На жаль, цяпер беларусы будуць гуляць у суцяшальным турніры за 9—12 месцы, а ў фінальнай групе нашае месца зоймуць расіяне. ■

ВЫБАРЫ

Працягваецца датэрміновае галасаванне па выбарах прэзідэнта Беларусі

# Асобая думка Пазьняка

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Адзін з кандыдатаў, старшыня Народнага Фронту Зянон Пазьняк выступіў супраць датэрміновага галасавання і запатрабаваў зняць з пасады старшыню Цэнтральнай выбарчай камісіі Віктара Ганчара.**

У сваім факсе, накіраваным да сябраў БНФ, Зянон Пазьняк абвінавачвае В.Ганчара ў шматлікіх парушэннях выбарчага заканадаўства і Канстытуцыі і «правальванні» выбараў. Старшыня БНФ сцвярджае, што дагэтуль не былі створаны ўчастковыя камісіі, не падрыхтаваныя спісы выбаршчыкаў. Ён называе «блюзнерствам і авантурызмам» мерапрыемствы па правядзенні датэрміновага галасавання – «механізму ўсеагульнага 10-дзённага галасавання з паквятэрным абходам няма ў беларускім заканадаўстве». Пазьняк патрабуе, каб выбары па ўсёй Беларусі прайшлі толькі ў адзін дзень – 16 траўня.

На думку Зянона Пазьняка, калі б выбары распачаліся 16 траўня і нават цягнуліся толькі 5 хвілінаў, а потым былі спыненыя ўладамі, то «юрыдычная, палітычная і маральная перавага і праўда засталіся б за намі». Потым выбары маглі б быць працягнутыя калі-небудзь пазней, напрыклад, пасля 20 ліпеня, калі Лукашэнка губляе сваю легітымнасць як прэзідэнт.

Ад усіх сябраў БНФ Зянон Пазьняк запатрабаваў гэтымі днямі безумоўнага выканання яго загадаў: працягваць агітацыю за яго, а таксама блакіраваць усе новыя ініцыятывы Цэнтрвыбаркама, не ўдзельнічаць у выбарчых структурах, «пакуль ЦВК не стане на грунт Закона і Канстытуцыі».

Тым часам мы атрымалі зварот Рады БНР, у якім старшыня Івонка Сурвіла заклікала беларусаў галасаваць за новага прэзідэнта ў тэрмін з 6 па 16 траўня. Такім чынам, відаць, інтарэсы Пазьняка і БНР на гэты раз разышліся.

НАВІНЫ папрасілі **Віктара ГАНЧАРА** адказаць на абвінавачванні кандыдата ў прэзідэнты. Але ён катэгарычна адмовіўся каментаваць заяву Пазьняка, сказаўшы толькі:

— Цэнтрвыбаркам у адпаведнасці з законам даў афіцыйныя тлумачэнні аб парадку галасавання. Ацэнкі і заўвагі любых асобаў і арганізацыяў ніяк не ўплываюць на дзейнасць камісіі і ў некаторых выпадках нават могуць разглядацца як умяшальніцтва ў яе дзейнасць. ■

МЕРКАВАННЕ

# Галоўнае перамога, а не пераможца

Адам РОЎДА

**Для правядзення выбараў апазіцыйным партыям і рухам краіны неабходна мабілізаваць усе свае сілы і дзейнічаць згуртавана. На жаль, у апазіцыйным лагеры пакуль няма адзінства і згоды. Таму дзень 16 траўня, які яшчэ некалькі месяцаў назад лічыўся своеасаблівым сігналам да пачатку канстытуцыйнага наступлення апазіцыі на рэжым Лукашэнкі, можа стаць «чорным днём» беларускай дэмакратыі.**

Палеміка наконт працэдуры прэзідэнцкіх выбараў, якую разгарнуў апошнім часам старшыня БНФ Зянон Пазьняк, ягоныя крытычныя выпады супраць канкурэнта, Міхаіла Чыгіра, недвухсэнсоўна сведчаць аб тым, што ў шэрагах дэмакратычнай апазіцыі намеціўся сур'ёзны раскол. Хоць дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што беларуская апазіцыя ніколі не была маналітнай. Аднак, адразу ж пасля абвяшчэння Вярхоўным Саветам 13-га склікання прэзідэнцкіх выбараў, на нейкі час дэмакратычныя сілы краіны і сапраўды згуртаваліся. У іх з'явілася актуальная рэальная справа — правесці прэзідэнцкія выбары, як таго патрабуе Канстытуцыя 1994 года. Нездарма ж так захваляваўся рэжым. Але зараз відавочна, што менавіта прэзідэнцкія выбары сталі яблыкам разладу і могуць, на радасць Лукашэнку, зрабіць колішніх аднадумцаў ледзь не ворагамі. Шэрагі апазіцыі імкліва раздзяляюцца на два непрымірымыя лагеры. У адным гуртуюцца прыхільнікі Зянона Пазьняка, у другім — Міхаіла Чыгіра. Ясна, што канчаткова размежаванне завершыцца пасля таго, як будуць абвешчаныя вынікі прэзідэнцкіх выбараў. Сёння ўжо зразумела, што лідэр БНФ не пагодзіцца з вынікамі выбараў, калі прэзідэнтам будзе абраны Міхаіл Чыгір. А шанцы перамагчы ў Міхаіла Чыгіра, сапраўды, як мне падаецца, большыя, чым у ягонага саперніка. Ужо сам факт, што Чыгір нікуды не ўцякаў перад пагрозай арышту, не спалохаўся лукашэнкаўскай турмы, вярнуўся на Радзіму, пакінуўшы грашавітую працу ў Маскве, робіць папулярным былога прэм'ера. Міхаіл Чыгір, які зараз знаходзіцца ў лукашэнкаўскай турме, выклікае спагаду і павагу і сярод гэтак званага пратэстнага электарата. Напэўна, і сам Зянон Пазьняк не вельмі ўпэўнены ў сваёй перамозе на прэзідэнцкіх выбарах, таму, на радасць Лукашэнку, фактычна паставіў пад сумненне легітымнасць іх вынікаў.

Вядома ж, Цэнтрвыбаркам можа і не звяртаць увагі на палітычныя гульні аднаго з кандыдатаў у прэзідэнты. Але ж нельга забываць, што Зянон Пазьняк узначальвае самую шматлікую апазіцыйную арганізацыю — БНФ «Адраджэньне». Без актыўнага ўдзелу БНФ, які мае свае структуры па ўсёй краіне, будзе вельмі складана правесці галасаванне па выбарах прэзідэнта. Але не гэта галоўнае.

Зусім магчыма, што цяперашнія прэзідэнцкія выбары будуць толькі рэпетыцыяй для правядзення ў далейшым галасавання ў рэальнай замене прэзідэнцкай улады ў Беларусі. Вось чаму важна захаваць адзінства апазіцыі, не дапусціць яе расколу на «пазьнякоўцаў» і «чыгіроўцаў».

Як жа гэта зрабіць? Прэтэндэнтаў двое, а прэзідэнцкая пасада адна. Спыніць галасаванне? Ні ў якім разе! Працэс ужо пайшоў. Затрачана столькі сілаў, пройдзена столькі выпрабаванняў: арышты членаў Цэнтрвыбаркама, збіццё актывістаў, запалохванне іх родных і блізкіх. Пасля ўсяго гэтага адмяніць прэзідэнцкія выбары – значыць прызнаць сваё паражэнне. На маю думку, магчыма, адзіным правільным выйсцем з гэтай сітуацыі было б правядзенне выбараў без абвяшчэння пераможцаў. Інакш кажучы, Цэнтрвыбаркам павінен будзе назваць толькі агульную колькасць удзельнікаў прэзідэнцкіх выбараў. Сама па сабе гэтая колькасць і будзе сведчыць аб шанцах на перамогу ці паражэнне дэмакратыі ў нашай краіне. Бо, фактычна, нягледзячы на адрозненні ў палітычных праграмах Зянона Пазьняка і Міхаіла Чыгіра, па вялікім рахунку іх аб'ядноўвае адна мэта: адстаяць незалежнасць Бацькаўшчыны, пабудаваць рынкавую эканоміку і правесці дэмакратычныя рэформы ў краіне. Усё астатняе, у параўнанні са стратай суверэнітэту, для Беларусі пакуль няважна.

Вось чаму дэмакратычныя рухі павінны на нейкі час забыцца пра ўсе былыя сваркі, пра існуючыя рознагалоссі і «пайсці ў народ», каб забяспечыць актыўнасць выбаршчыкаў. Часу, каб дайсці да кожнага, у беларускіх дэмакратаў засталося не так ужо і шмат. ■



● Юлія Чыгір галасуе ў штаб-кватэры кандыдата ў прэзідэнты Міхаіла Чыгіра

# Журналісты, стройся!

У Беларусі і Расіі будзе адзіная інфармацыйная прастора і агульная ваенная інфраструктура

Віка ТУРАВА

Барыс Ельцын унёс у Дзяржаўную Думу на ратыфікацыю Дамову паміж РФ і Беларуссю аб сумеснай тэлерадыёвяшчальнай арганізацыі саюза дзвюх краінаў, падпісаную ў Маскве 22 студзеня 1998 года.

Прадказваецца, што дамовай будуць складзеныя спрыяльныя ўмовы функцыявання адзінай інфармацыйнай прасторы ў мэтах «глыбокага і ўсебаковага асвятлення» дзяржаўнага і грамадскага жыцця саюза. Аб тым, што жыццё гэтага міждзяржаўнага фармавання хутчэй падобнае на спячку, у дакуменце не гаворыцца. Таму пакуль таксама незразумела, што будзе асвятляць новая тэлерадыёкампанія. Але напярэдадні шматлікіх выбараў як у Расіі, так і ў Беларусі ўладам падкантрольныя СМІ не перашкодзяць.

Накіроўваючы дакумент у ніжнюю палату, Ельцын асабліва акцэнтаваў увагу на тое, што дадзеная дамова адпавядае інтарэсам Расіі. Аднак ён не сказаў, хто менавіта будзе фінансаваць адзіную інфармацыйную прастору і дзе будзе знаходзіцца кузня кадраў для новай кампаніі. Калі ў Мінску, то расіянам не пазайздросціш.

Па прапанове Ельцына дэпутаты таксама павінны прагаласаваць за сумеснае выкарыстанне аб'ектаў ваеннай інфраструктуры ў інтарэсах бяспекі дзяржаваў. Адпаведнае пагадненне таксама перададзенае ў Дзярждуму для ратыфікацыі. Як адзначыў Б.Ельцын, «пагадненне рэгулюе пытанні, звязаныя з сумесным выкарыстаннем аб'ектаў ваеннай інфраструктуры РФ і Беларусі ў інтарэсах рэгіянальнай групоўкі іх войскаў (сілаў) у межах рэгіёна — тэрыторыяў абласцей Расіі, прылеглых да дзяржаўнай мяжы Беларусі, і тэрыторыі Беларусі». ■

ВАЙНА

# Кітайская хваля

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

Віцэ-прэзідэнт Кітая Ху Цзіньтао выступіў па нацыянальным тэлебачанні і падтрымаў «законныя» выступленні кітайскага народа супраць бамбардзіроўкі амбасады ў Бялградзе, аднак заклікаў устрымацца ад «экстрэмісцкіх выхадак». Акцыі пратэсту прайшлі ў гарадах Пекін, Шанхай, Гуаньджоў, Сіньцзян, Нанкін, Макаа і Чангша.

Учора колькасць дэманстрантаў паменшылася, і ў кожнага паліцыя правярала дакументы – мітынгаваць дазвалялі толькі студэнтам. Учора ж стала вядома, што Кітай прыпыніў стасункі з Амерыкай у такіх галінах, як абарона правоў чалавека, кантроль за ўзбраеннямі і супрацоўніцтва ў галіне міжнароднай бяспекі.

Яшчэ да пачатку амерыканскіх бамбардзіровак Югаславіі ў паветры насілася думка аб пачатку Трэцяй сусветнай вайны. Як вядома, на Балканах пачыналіся і Першая, і Другая сусветныя войны – таму сцвярджалася, што там жа пачнецца і Трэцяя.

Кітай і Амерыка ідэальна падыходзяць на ролю канкуруючых супердзяржаваў. Абедзве краіны валодаюць ядзернай зброяй. У Кітаі і ЗША пануюць супрацьлеглыя ідэалогіі. Кітай пакутуе ад перанаселенасці: там жыве цяпер 1 мільярд 237 мільёнаў чалавек – гэта першая краіна свету па колькасці насельніцтва. Але і ў ЗША жыве нямала — 250 мільёнаў (трэцяе месца па колькасці насельніцтва).

Кітайская афіцыйная ідэалогія яшчэ з 40-х гадоў пераконвае сваіх грамадзянаў, што яшчэ адна сусветная вайна непазбежная. Кітай заўсёды паводзіў сябе на міравой арэне вельмі агрэсіўна і не спыняўся ні перад дзяржаўнымі пераваротамі, ні перад памежнымі канфліктамі. З другога боку, ЗША відавочна імкнуцца займаць месца адзінай супердзяржавы ў свеце, Амерыцы непатрэбныя канкурэнты.

Не дай Божа, калі Кітай вырашыць перайсці да больш актыўных дзеянняў, чым аблога амерыканскай амбасады. Тады магчыма ўсё, у тым ліку і Трэцяя сусветная вайна. ■

**Удзел Кітая ва ўзброеных канфліктах у перыяд пасля Другой сусветнай вайны:**

**1945-1949** – грамадзянская вайна.
**1949-1953** – Карэйская вайна (на баку паўночных карэйцаў).
**1958** – вайна за далучэнне Тайваня
**1958-59** – змаганне з паўстанцамі ў Тыбеце.
**1962** – памежны канфлікт з Індыяй
**1965** – падтрымка дзяржаўнага перавароту ў Інданезіі
**1960-70-я** – грамадзянская вайна ў В'етнаме (Кітай падтрымаў змагароў з Паўночнага В'етнама).
**1969** – крывавы канфлікт з СССР з-за паўвыспы Даманскай.
**1979** – памежны канфлікт з В'етнамам.

# Іх абвінавачваюць у забойстве Мікалуцкага

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

**Трэці тыдзень у Вышэйшым судзе Беларусі пад старшынствам суддзі Фёдара Чубко разглядаецца справа аб забойстве Яўгена Мікалуцкага і падрыхтоўцы замаху на беларускага прэзідэнта. Судзяць Віктара Янчэўскага, Рамана Радзікоўскага і Анатоля Гаўрылава. Следчая брыгада пад кіраўніцтвам сп.Матулькова лічыць іх выканаўцамі забойства прэзідэнцкага кантралёра і змоўшчыкамі супраць самога прэзідэнта. Суд ідзе за зачыненымі дзвярыма. На яго не дапускаюць прадстаўнікоў грамадскасці і журналістаў. Хаваюцца суддзі і ад сваякоў абвінавачаных. Між тым, гэтым людзям ёсць аб чым паведаміць грамадству. Праваабарончы цэнтр «Вясна-96» арганізаваў сустрэчу журналістаў з роднымі ўсіх траіх абвінавачаных.**



Родныя **Рамана Радзікоўскага, Анатоля Гаўрылава** і **Віктара Янчэўскага** расказваюць журналістам, як збіраліся матэрыялы па «справе Мікалуцкага».

## Віктар Янчэўскі

Віктар з 1962 года. У яго жонка і двое дзяцей, малодшай дзяўчынцы было 7 месяцаў, калі Янчэўскага арыштавалі па падазрэнні ў забойстве Мікалуцкага. Дарэчы, тады ён не ведаў, за што яго ўзялі.

***Жонка Янчэўскага Людміла:***

— Мужа арыштавалі 11 снежня 1997 года, і з таго часу 17 месяцаў яго трымалі ў адзіночнай камеры, у каменным мяшку. Мне дакладна вядома, што яго білі па галаве і далі яму транквілізатары, каб «выбіць» патрэбныя паказанні. Летам мінулага года яго быццам бы пазнала жонка Мікалуцкага. Яе прывялі ў кабінет да следчага, далі пачытаць справу; у гэты момант быццам бы выпадкова ўвялі ў кабінет Віктара. І яна быццам бы пазнала ў ім маладога чалавека, якога бачыла напярэдадні выбуху ў сваім пад'ездзе. Больш за паўгода, як быў арыштаваны Віктар, яна магла бачыць яго здымкі ў справе, але раней не пазнавала, а тут раптам пазнала!

Дарэчы, менавіта Віктару Янчэўскаму следчыя адводзяць ролю чалавека, які «націснуў кнопку выбуховага прыстасавання». А дакладней — пацягнуў за шнурок, які быў спушчаны з даху. Быццам бы ёсць сведкі, якія бачылі на даху ў момант выбуху маладога чалавека ў спартыўным касцюме. Потым следчыя пачнуць актыўна шукаць у Янчэўскага спартыўны касцюм і боепрыпасы. Два вобыскі вынікаў не дадуць, а вось са сведкамі нешта атрымаецца. Следчыя шукалі суседзяў, якія б хоць некалі бачылі Янчэўскага ў спартыўным касцюме. Паколькі гэта вельмі распаўсюджанае цяпер сярод моладзі адзенне — магчыма, сведкі знайшліся. Аднак большасць суседзяў усё ж заяўляла следчым, што Віктар Янчэўскі пераважна насіў усё чорнае ды скураное. Следчых, сцвярджаюць суседзі Янчэўскіх, гэтыя паказанні не зацікавілі. Суседзі падпісалі калектыўны ліст у абарону Віктара і даслалі яго ў пракуратуру, аднак адказу не атрымалі.

***Маці Віктара Тамара Антонаўна:***

— Падлеткам сын зрабіў тое, з-за чаго і дагэтуль пакутуе. Залез з сябрам на адно лецішча і папаўся. У выніку Віця атрымаў ажно 4 гады. Я часта хварэю, а тэлефона ў мяне няма. Вось Віця з дапамогай свайго знаёмага Валерыя Ткачова набыў рацыю і падтрымліваў са мной сувязь. У той дзень, калі забілі Мікалуцкага, сын якраз рамантаваў антэну гэтай рацыі — суседзі гэта могуць пацвердзіць. Аднак гэтых сведкаў нават слухаць не хочуць — нікога ў суд не выклікаюць. Я ўжо казала і яшчэ паўтару: калі майго сына асудзяць і дадуць яму расстрэл, я спалю сябе побач з адміністрацыяй прэзідэнта. Сёння з маім сынам гэтак абыходзяцца, а заўтра з іншымі? Я на гэта спакойна глядзець не буду.

## Раман Радзікоўскі

Раману 28 гадоў. Ён атрымаў прафесію штурмана рачных суднаў, але аднойчы ў плаванні атрымаў траўму і таму па прафесіі не працаваў. Апошнім часам зарабляў тым, што рамантаваў кватэры — распісваў «пад дрэва» дзверы і касякі. У вольны час вывучаў англійскую мову ды хадзіў у касцёл — рыхтаваўся прайсці абрад хрышчэння. Хутка збіраўся ажаніцца са сваёй дзяўчынай, Наталляй. Наталля працавала мастаком у друкарні, і ў той дзень вярнулася дадому з газетай, у якой паведамлялася пра забойства Мікалуцкага.

***Наталля, нявеста Радзікоўскага:***

— Ён яшчэ спытаўся ў мяне — хто гэта такі Мікалуцкі. Мы былі з сябрамі — мастакі, музыканты, усе такія далёкія ад палітыкі людзі. А потым у Магілёве пачаліся «чысткі» — хапалі ўсіх былых падрыўнікоў, хто меў нейкае дачыненне да зброі ці боепрыпасаў. Я не ведаю, як следчыя выйшлі на Рамана — хутчэй за ўсё, як яны кажуць, шляхам «аператыўных метадаў». У Рамана была калекцыя ўсялякіх штыкоў ды нажоў. У дзяцінстве яшчэ выкопваў на беразе Дняпра, дзе ішлі баі. Нейкія былі кніжкі гістарычныя, пра вайну, пра розныя боепрыпасы. Ну, хобі ў яго такое было. Знаёмыя пра гэта, вядома ж, ведалі. І вось раптам мы даведаліся, што Ромінага знаёмага, Сашку Кулікова, узялі ў міліцыю. І не толькі яго, а нават ягоную дзяўчыну. Відаць, на Кулікова моцна націснулі. Самае цікавае ў выпадку з Радзікоўскім — як следчым удалася «злучыць» яго з астатнімі абвінавачанымі, калі ўлічыць, што да арышту Раман не ведаў ні «тэрарыста» Янчэўскага, ні «паручэнца» Гаўрылава, і тым больш ніколі не знаўся з нябожчыкам Ткачовым, якому прыпісваецца роля кіраўніка банды.

***Маці Рамана Наталля ЗАІДЗЭ:***

— Першы раз, калі арыштавалі сына, мне гэта падалося памылкай, якую хутка выправяць. Ішлі праверкі, чаго не бывае. І сапраўды, сына выпусцілі. Ён быў крыху іншы, расказваў мала. А праз месяц яго зноў выклікалі ў міліцыю, і ён ужо не вярнуўся. Потым я з жахам даведалася, што яго абвінавачваюць у гэтым забойстве. Перад судом Раман перадаў мне на волю запіску: «Трэба зняць ружовыя акуляры і рыхтавацца да горшага. Справа цалкам сфальсіфікаваная, але наіўна думаць, што на судзе нехта сапраўды будзе разбірацца. Таму яны і суд вырашылі зрабіць закрытым. Гэта будзе проста судзілішча з загадзя вядомым вынікам».

— І ўсё ж мой сын не збіраўся здавацца, — кажа Наталля Уладзіміраўна. — Суд можа пачуць праўду пра метады следчых, і гэта галоўны «сакрэт», які хаваюць тыя, хто абвясціў працэс закрытым.

Маці абвінавачанага Радзікоўскага звяртаецца праз друк да сведкі Аляксандра Кулікова з заклікам прыйсці ў суд і шчыра расказаць усё, як было.

## Анатоль Гаўрылаў

У дзень, калі праводзілася гэтая прэс-канферэнцыя, Анатолю споўнілася 24 гады. З іх амаль два апошнія ён правёў альбо пад арыштам, альбо ў чаканні арышту. Як сцвярджаюць родныя Гаўрылава, уся ягоная бяда ў тым, што ён ведаў нябожчыка Ткачова бліжэй за іншых (палова Магілёва ведала былога гэбіста і барацьбіта з карумпіраванымі начальнікамі Валерыя Ткачова). Следства быццам бы ўпэўненае, што Гаўрылаў быў кшталту Пецькі пры Чапаеве. Выконваў дробныя даручэнні, перадаваў загады. Так працаваў «штаб банды». Маці Яўгенія Іванаўна нікаця, што справы не заходзілі далей за даручэнне адрамантаваць нешта ў машыне. «Толік і пазнаёміўся з гэтым Ткачовым на гаражах, мы там побач жывём. Ну каму з маладых хлопцаў не хочацца зарабіць? А Ткачоў час ад часу такую магчымасць даваў», — распавядае маці Гаўрылава.

6 кастрычніка грымнуў выбух у пад'ездзе Мікалуцкага, а ўжо 9-га ў Гаўрылавых прайшоў першы ператрус. «Узялі толькі нейкія касеты», — кажа маці. Але справа не ў гэтым. Здзіўляе хуткасць, з якой аперы выйшлі на Гаўрылава. Відаць, за Ткачовым і раней вёўся пільны нагляд, усе ягоныя сувязі былі вядомыя, і дастаткова было толькі каманды, каб разам накрыць усю «банду». Пакінем сабе пытанне, чаму «тэрарысты» не былі абяззброеныя раней. Вернемся да Гаўрылава.

Хлопец вёў цалкам спакойнае жыццё. З крымінальнікамі не вадзіўся, валютай не гандляваў, працаваў сабе ціха ў рамонтнай фірме за камп'ютэрам. Як да яго прычапіліся? «21 кастрычніка сына адсачылі і затрымалі пры выхадзе з тралейбуса. Прывялі ў пастарунак і склалі пратакол, што быццам ён лаяўся ў грамадскім транспарце, — расказвае Яўгенія Іванаўна. — Выпусцілі, потым зноў арыштавалі за нешта, далі 30 дзён арышту. Выйшаў з ізалятара — плача: «Мама, няўжо на мяне хочуць павесіць гэтае забойства». Ён выраашыў з'ехаць і сапраўды некуды знік. Міліцыя званіла, пыталася, дзе ён, і калі 28 лютага ён прыехаў і пазваніў мне, я сказала яму пра следчых. Толькі ён, відаць, верыў, што разбяруцца, і сам пайшоў у міліцыю. З тых часоў я бачыла яго толькі раз, мінулым летам, у кабінеце следчага. У яго быў такі азызлы твар і ён глядзеў так дзіўна. Я спыталася: што з табой, сыночак? Нічога, кажа, я мала сплю, а сам азіраецца на міліцыянераў... Я ўпэўненая, што яго там білі і выцягнулі ўсё, што ім трэба. Мне следчы сам сказаў: яго віна ў тым, што добра ведаў Ткачова. А хто ж яго ў нас у Магілёве не ведаў?»

**! НАВІНЫ будуць і далей адсочваць судовы працэс па справе забойства Яўгена Мікалуцкага. Наш чытач зможа даведацца аб усіх падрабязнасцях, што адкрыюцца падчас гэтага закрытага суда.**

**ДАВЕДКА НАВІНАЎ**

### Валерый ТКАЧОЎ

Былы супрацоўнік КДБ Валерый Ткачоў быў звольнены з органаў за парушэнне правілаў карыстання зброяй (па звестках, карыстаўся службовым пісталетам на паляванні). У пачатку 1990-х гадоў заняўся прадпрымальніцтвам. Адседзеў амаль два гады ў ізалятары па падазрэнні ў розных злачынствах, у тым ліку і арганізацыі забойства, але суд прызнаў яго невінаватым. З сярэдзіны 90-х у Ткачова рэзка пагоршыліся адносіны з міліцэйскімі начальнікамі. Былы чэкіст публічна заяўляе, што вывядзе карупцыянераў на чыстую ваду, што ў яго ёсць на іх кампрамат. Па некаторых звестках, частка гэтага кампрамату Ткачоў падзяліўся з Мікалуцкім, а той збіраўся паведаміць у Мінск, ды не паспеў.

Пасля смерці Мікалуцкага Ткачоў быў арыштаваны. Маці абвінавачаных у забойстве Мікалуцкага, пераказваючы чуткі, што ходзяць у Магілёве, кажуць, што Ткачова прымушалі ўзяць забойства на сябе, інакш пацерпіць і ягоны сын. Паводле гэтай версіі, Ткачоў адмовіўся і быў задушаны ў сваёй камеры поліэтыленавым пакетам. Афіцыйная версія смерці былога супрацоўніка КДБ сцвярджае, што ён задушыўся паясам, лежачы на турэмным ложку. Чаму толькі ні навучаюць у нашых спецведамствах! ■



© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 543 Нумар падпісаны ў друк 10/05/99 (15:00) Наклад — 16.910